# КРЫВІНКА

СНЕЖАНЬ
№19 (263)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ДЫЯЛОГ ... БЕЗ ДЫЯЛОГУ

**Як інфармуе Бешанковіцкі райвыканкам, аказваецца, у Бешанковічах ва ўсю ідзе дыялог аб зменах у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.**

Аб зменах ў тую Канстытуцыю, большасць артыкулаў якой (свабода слова, друку, масавых мерапрыемстваў і г.д.) растаптаныя гэтай жа уладай, якая ўзялася раптам ініцыяваць нейкі «дыялог». Хто ж удзельнічае ў гэтай (цяжка назваць дыялогам) — інсцэніроўцы? З аднаго боку — раённыя чыноўнікі, якія гадамі сядзяць на сваіх пасадах і ствараюць патрэбную карцінку для таго, хто хацеў бы кіраваць вечна. А з другога боку? З кім размаўляюць тыя чыноўнікі? Таксама з чыноўнікамі, але драбнейшага маштабу. Чамусьці, чуюць тыя чыноўнікі толькі свой голас, голаса народу для іх не існуе.

У савецкія часы таксама вяліся розныя «дыялогі» блоку камуністаў з беспартыйнымі аб адзіна правільным курсе. Але тады было магчыма выслухаць нейкія думкі і даяркі, і рабочага. І былі неардынарныя думкі.

Што ж змянілася ў лукашэнкаўскай Беларусі? А тое, што дыялог у нашым грамадстве цяпер мае права аб'яўляць толькі адзін чалавек. І вы ведаеце ягонае прозвішча. І я хацеў бы паглядзець хоць на аднаго бешанковіцкага (ды й не бешанковіцкага) чыноўніка, чые думкі накont неабходнасці тых зменаў не супадаюць з думкамі таго, хто хацеў бы кіраваць вечна.

А трактарыста з даяркай, якія б бясплатна хлусілі б проста ў аб'ектыў, сёння знайсці вельмі складана.

Тыя, хто інсцэніруе гэты "дыялог", ніколі не спытаецца ў нас з вамі, якія нашыя думкі накont усяго гэтага. Як не ўключалі нас з вамі ў камісіі на выбарах, як не лічылі нашыя галасы на тых «выбарах». Як не збіраюцца праводзіць іншыя выбары з незалежнымі назіральнікамі, бо яны вынік гэтых новых выбараў ведаюць лепш за нас. Іх у гэтым жыцці ўсё задавальняе. Акрамя хіба што аднаго: на сцэну, дзе доўгі час ішоў спектакль аднаго актора, выходзіць яго вялікасць народ.

Што ж, дыялагуйце, шаноўныя. Але не задыхайцеся! Памятайце, што згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, толькі народ Беларусі з'яўляецца носьбітам улады. Той народ, які сёння сотнямі тысяч выходзіць на вуліцы з пратэстамі і сядзіць на сутках. А які пакуль што не выходзіць, то ўсё-роўна трымае вялізны кукіш у кішэні.

Каму ён той кукіш неўзабаве пакажа — здагадайцеся самі.

**Г.Станкевіч**

9-га сьнежня нарадзіўся Максім Багдановіч

## ПАГОНЯ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, -*
*Ўспомню Вострую Браму сьвятую*
*І ваякаў па грозных канях.*

*Ў белай пене праносяцца коні, -*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

*У бязьмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі - гады.*
*Вы за кім у пагоню сьпяшыце?*
*Дзе шляхі вашы ўдуць і куды?*

*Мо яны, Беларусь, панясьліся*
*За тваімі дзяцьмі ўздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*

*Бійце ў сэрцы іх - біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усьцішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**Максім Багдановіч**

НАША ЖЫЦЦЁ

## АСТРОВЕНСКУЮ ШКОЛУ ЗАТАПІЛА

**«Зара» распавядае: "Будынак Астравенскай школы пабудаваны ў 1982 годзе і за гэтыя амаль 40 гадоў тут ніколі не было капітальнага рамонту даху. Перыядычна падчас дажджоў ён працякаў. Таму радасць ад таго, што гэтай восенню праблема зрушылася з мёртвай кропкі, была неапісуемай.**

Пры падтрымцы Сусветнага банка развіцця пачаліся работы па капітальным рамонце з мадэрнізацыяй установы адукацыі. 1 верасня школа у поўным узбраенні прыняла сваіх 80 вучняў. На бацькоўскім сходзе абмеркавалі маючы адбыцца рамонт. Большасць бацькоў выказалася за тое, каб дзеці працягвалі навучанне ў сценах роднай ўстановы адукацыі. З прапанаваных варыянтаў гэта быў самы аптымальны для забеспячэння бяспекі дзяцей.

Тэндэр выйграла ТАА «САВБЕЛТ» з г. Мінска. Да выканання дахавых работ на плошчы 1400 квадратных метраў будаўнікі прыступілі 30 верасня...

Дах на плошчы 340 квадратных метраў будаўнікі не паспелі пакласці, а на ўсёй пакінутай плошчы пакласці вынікова пласт і парапет. «Вадаспад» са столі абвальваўся неадназова.

Ад вады пацярпелі многія навучальныя памяшканні. Больш за ўсё дасталася кабінетам фізікі і пачатковых класаў, спартыўнай і актавай залам. Аднак навучальны працэс не быў перапынены: заняткі праходзяць у вучэбных памяшканнях, якіх дыханне стыхіі не кранула. Тэхперсанал самааддана змагаўся з наступствамі зацякання. Зараз у класах ўжо суха, хоць дзе-нідзе яшчэ стаяць вёдры. Як і тэмпература, узровень вільготнасці трымаецца ў межах нормы, перавышэнне (на 5%) выяўлена толькі ў кабінеце фізікі...

Дырэктар ТАА «САВБЕЛТ» У. Забрадоцкі запэўніў кіраўніцтва раёна, што ўзятыя абавязацельствы будуць выкананыя ў дамоўленыя тэрміны. Падрадчык абавязваецца таксама ліквідаваць наступствы зацякання, якія адбыліся па яго віне."

**А.Тутэйшы**
**скарочаны пераклад на беларускую мову з сайта "Зары"**

**Партал твайго горада: http://beshankovichy.by**

БЕЛАЭС

## ЭЛЕКТРАДОМ У БЕШАНКОВІЧАХ

**У Віцебскай вобласці ў бліжэйшы год будзе пабудавана 27 тыс. кв. м жылля з электрычным ацяпленнем. У абласным цэнтры плануецца будаўніцтва квартала электрадамоў на вул. М. Горкага, дзе на 6 га з'явяцца тры 10-павярховых дамы на базе буйнапанэльнага серыі Віцебскага домабудаўнічага камбіната, а таксама два 11-павярховых цагляных, у тым ліку з секцыяй зменнай паверхавасці. Да 2025 года тут будуць пражываць звыш 1,3 тыс. чалавек. Для ўстойлівага энергазабеспячэння ў квартале пабудуюць тры трансфарматарныя падстанцыі. З'явяцца таксама электродамы на вул. П. Броўкі ў Віцебску, у пасёлку Тулава Віцебскага раёна, 40-кватэрны - у Бешанковічах.**

- Выкарыстанне электрычнай энергіі ў жыллёвым будаўніцтве асабліва актуальна з уводам у строй Беларускай атамнай электрастанцыі. Наша вобласць стала першапраходцам у будаўніцтве такога жылля, - адзначыў начальнік упраўлення жыллёвай палітыкі і інвестыцый камітэта па архітэктуры і будаўніцтву аблвыканкама Андрэй Пшонка і спаслаўся на прыклады.

Першы крок на шляху выкарыстання электраэнергіі для якаснага забеспячэння жыццядзейнасці грамадзян - будаўніцтва 8-кватэрнага жылога дома ў Лёзна ў 2018 годзе. Дом, у якім электраэнергія выкарыстоўваецца для ацяплення, гарачага водазабеспячэння і прыгатавання ежы, стаў першай ластаўкай у рэспубліцы. Замест звыклых батарэй ў кожным пакоі ўсталяваныя канвектары, у кожнай кватэры - бойлеры. У дадзеным доме кіраванне сістэмай ацяплення, рэгуляванне зададзенай тэмпературы, уключэнне і выключэнне абагравальнікаў ажыццяўляецца пры дапамозе электроннага тэрмарэгулятара, які дазваляе праграмаваць патрабаваную тэмпературу на працягу сутак і тыдня. Акрамя таго, кіраванне можна ажыццяўляць з мабільнага тэлефона.

Каб неяк зраўнаваць аплату за жыллёва-камунальныя паслугі ў электрычных і дамах з традыцыйным ацяпленнем, на ўзроўні ўрада быў зацверджаны новы тарыф: 3 кап. за 1 кВт электраэнергіі.

- Маніторынг эксплуатацыі электрычнага дома ў Лёзна паказаў, што аплата камунальных паслуг у ім супастаўная з аплатай у жылым фондзе з традыцыйнай крыніцай ацяплення, што і патрабавалася даказаць, - падкрэсліў Андрэй Віктаравіч. - Калі аплата супастаўная, то, у прынцыпе, навошта было агарод гарадзіць? - пацікавілася я. - Электраэнергія становіцца для беларусаў больш даступнай, яе выкарыстанне дазваляе часткова замяніць прыродны газ, які даводзіцца імпартаваць. Выкарыстанне электрычнай энергіі для ацяплення і падагрэву вады дапамагае знізіць страты ў цеплавых сетках, а таксама пазбягаць выдаткаў на іх абслугоўванне і эксплуатацыю, што з'яўляецца важным эканамічным складнікам у працы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У перспектыве можна будзе пераводзіць на электрычную энергію кацельні, якія працуюць на прадуктах нафтаперапрацоўкі і прыродным газе, пашыраць выкарыстанне электратранспарту, у тым ліку ствараць новыя вытворчасці па выпуску электрамабіляў і электробусаў. А гэта ўжо новы ўзровень развіцця на шляху зялёнай эканомікі. Другі прыклад выкарыстання электрычнай энергіі - узвядзенне пяціпавярховага 60-кватэрнага жылога дома ў Тулава ў Віцебскім раёне. Для навасёлаў перасталі існаваць пары года. Яны самі вырашаюць, калі ўключыць канвектар, каб стала камфортна ў памяшканні. Зрабіць гэта можна ў міжсезонне або нават летам, калі за акном халоднае і сырое надвор'е. - Перавагі электрадамоў бясспрэчныя, - падкрэсліў Андрэй Пшонка. - Жыхары не залежаць ад цэнтральнага ацяплення, могуць па сваім меркаванні ўсталёўваць неабходныя параметры і рабіць гэта нават на адлегласці. Электрадом больш просты ў эксплуатацыі, а электрычнасць адносіцца да экалагічна чыстай крыніцы энергіі, не забруджвае навакольнае асяроддзе. У ліку пераваг

***(працяг на стар. 2)***

БЕЛАЭС

*(пачатак на стар. №1)*
- досыць кароткія тэрміны ўзвядзення электрадамоў за кошт адсутнасці неабходнасці пракладаць сеткі цяпла-і газазабеспячэння.

- Ці ёсць мінусы ў электрычнага ацяплення? - Вядома, электраацяпленне для нашай краіны - тэма новая, дастатковага вопыту яшчэ не напрацавана. Аднак ёсць вялікія перспектывы, як паказвае практыка еўрапейскіх краін, у якіх асноўны выдатак электраэнергіі прыпадае менавіта на ацяпленне і атрыманне цеплавой энергіі з электрычнай. А з улікам уласнай БелАЭС плюсаў яшчэ больш, - адзначыў Андрэй Віктаравіч. Галоўнае асцярога - у кватэры будзе занадта сухое паветра. На працягу доўгага часу ў якасці электрычных ацяпляльных прыбораў выкарыстоўвалася абсталяванне з адкрытымі спіралямі. Яно сапраўды спальвала кісларод. Аднак цяпер сістэмы электрычнага ацяплення ўдасканаліліся, з'явілася мноства варыянтаў. Найбольш папулярныя простыя ў выкарыстанні электракатлы, мантаж якіх параўнальна недарагі. Вялікая іх перавага ў тым, што яны цалкам аўтаматызаваны, - гэта дазваляе пастаянна кантраляваць іх працу, нават знаходзячыся ўдалечыні ад дома. Электракатлы выбухова бяспечныя у адрозненне ад газавых.

- Спецыяльна створаная працоўная група правяла аналіз пяці схем ацяплення і гарачага водазабеспячэння жылых дамоў з выкарыстаннем электрычнай энергіі ў залежнасці ад абсталявання, - растлумачыў Андрэй Віктаравіч.

- Усё больш прыватных дамоў абсталююцца электракатламі. З нагоды падлучэння да электрычных сетак толькі сёлета звярнулася каля 5 тысяч грамадзян, якія пражываюць у розных населеных пунктах вобласці. Выдадзена 3226 станоўчых заключэнняў аб наяўнасці тэхнічнай магчымасці гэта зрабіць (66%). Праблема ў тым, як растлумачыў Вадзім Алегавіч, што цяпер эксплуатуюцца сеткі электразабеспячэння, пабудаваныя па раней дзеючым нормам, іх магутнасці невялікія, таму і задаволіць запыты не заўсёды рэальна. Каб выканаць усе заяўкі грамадзян, неабходна правесці рэканструкцыі ліній электраперадачы ВЛ-0,4 кВ агульнай працягласцю 1850 км, што патрабуе дадатковага фінансавання.

**ВітВесці**

ЗДАРЭННЕ

# ЗБІЎ ПЕШАХОДА І СКІНУЎ ЦЕЛА Ў КЮВЕТ

**Плямы крыві на дарозе заўважылі даяркі фермы Бачэйкава Бешанковіцкага раёна, якія зацемна вярталіся 3-га снежня з ранішняй дойкі. Побач у кювеце яны знайшлі цела загінулага мужчыны.**

Загінулым аказаўся 58-гадовы зваршчык, які жыў у суседняй вёсцы. Кіроўца, які збіў пешахода, адцягнуў яго цела з праезнай часткі ў прыдарожную канаву, а затым уцёк з месца здарэння. Як пазней высветліцца, ён нават паспеў з'ездзіць у Менск і замяніць пашкоджаныя краты радыятара. Аднак, прыкладна праз суткі міліцыі сумесна з ДАІ атрымалася яго знайсці.

Па падазрэнні ў здзяйсненні гэтага злачынства быў затрыманы 40-гадовы кіроўца фуры з Лёзна. Пасля рамонту аўто ў сталіцы ён паспеў вярнуцца дадому. У дачыненні да дальнабойніка распачалі крымінальную справу. Тым часам судмедэксперты ўсталёўвалі, што загінулы пешаход трапіў пад колы фуры будучы п'яным, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

**Народныя Навіны Віцебска**

МЕДЫЦЫНА

# ПАДАРУНАК МІЛІЯРДЭРА

**У сярэдзіне лістапада ў Бешанковіцкай бальніцы быў сапраўды святочны дзень: сюды даставілі навюткую «Хуткую дапамогу».**

Бальніцы яе падарыў расейскі бізнесмэн Аляксандр Яўневіч, які да 1976 года вучыўся ў бешанковіцкай СШ № 1. Падарунак быў тым больш жаданы, бо тыя "Хуткія дапамогі", што эксплуатуюцца ў Бешанковіцкай ЦРБ, поўнасцю адслужылі ўсе магчымыя тэрміны і развальваюцца на хаду.

Для расейскага мільярдэра, які, дарэчы, даўно займаецца дабрачыннасцю на розных узроўнях, зрабіць такі падарунак -- справа гонару. У "Рэйтынгу мільярдэраў ДП – 2019" А.Яўневіч займаў 12-е месца з капіталам, які ацэньваецца ў 60,4 мільярдаў расейскіх рублёў.

Але ўзнікае адно далікатнае пытанне: чаму за гады доўгага і шчаслівага кіравання першага і адзінага пакуль Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у бюджэце краіны не знайшлося аніякой магчымасці, каб набыць простыя аўтамабіль хуткай дапамогі для людзей?

Ён каштуе не нашмат даражэй, чым кожны з вялікага парка аўтамабіляў, на якіх ездзяць бешанковіцкія чыноўнікі і якія рэгулярна набываліся для іхняй патрэбы апошнія гады.

**А. Тутэйшы**

ПРА НАС

# "УЛАДА Ў БЕЛАРУСІ НА ЧАЛЕ З ЛУКАШЭНКАМ — ГЭТА ЗЛО"

**Так лічыць першы прэзідэнт незалежнай Украіны Леанід Краўчук. Ён называе сітуацыю ў Беларусі чалавечай і палітычнай трагедыяй.**

**«Ён верыць, што Расія заўсёды дапаможа яму асабіста, а не Беларусі»**

*— Спадар прэзідэнт, мінулым разам мы з вамі размаўлялі 13 жніўня, у перыяд вельмі жорсткіх рэпрэсій у Беларусі, і вы вельмі эмацыйна заклікалі Аляксандра Лукашэнку спыніць гвалт і праліццё крыві. Прайшло амаль чатыры месяцы… Якая ваша ацэнка таго, што адбываецца ў суседняй краіне — як чалавека і як першага прэзідэнта Украіны?*

— Мне шкада, што ў Беларусі адбываецца такая трагедыя — чалавечая і палітычная. Нават я, які добра ведае дыктатарска-адміністрацыйны стыль працы Лукашэнкі, яго выхаванне на прынцыпах таталітарнасці, а не дэмакратыі, свабоды і міжнародных нормаў, нават я не чакаў такога нечалавечага стаўлення да беларусаў, сваіх грамадзянаў з боку беларуса, выхаванага ў Беларусі, які жыве ў Беларусі. Я проста не магу зразумець гэтага, але факт ёсць факт.

Я думаю, што Лукашэнка за 26 гадоў пры ўладзе пераўтварыўся ў саму ўладу. Чалавечага ў ім фактычна не засталося. Ён увесь сатканы з улады, таму ён не бачыць, не можа асэнсаваць сваё жыццё без улады. Гэтая сутнасць прыводзіць да таго, што ён губляе чалавечае, застаецца толькі адміністрацыйна-ўладнае. І для яго людзі — проста матэрыял для кіравання, а не грамадзяне, якіх трэба паважаць, якія з'яўляюцца крыніцай улады, якія выбіраюць.

Тут яшчэ і ўплыў Расіі. Ён верыў і верыць, што Расія заўсёды дапаможа яму асабіста, а не Беларусі, і гэтым ён скарыстаецца ў крытычных сітуацыях, што, уласна, мы і бачым сёння. Гэтыя два моманты зрабілі з яго кіраўніка, які страціў чалавечыя якасці гуманнасці, дабрыні і павагі, нават спачування да людзей. Самае цяжкае ў мяне ўражанне…

**«Цяпер бессэнсоўна заклікаць Лукашэнку да нечага»**

*— Ці бачыце вы зараз сэнс у закліках да Лукашэнкі і яго сілавікоў спыніць гвалт? Якія міжнародныя механізмы могуць быць задзейнічаныя ў такой сітуацыі? Што можа зрабіць Украіна, людзі і ўлада?*

— Я думаю, што цяпер бессэнсоўна заклікаць Лукашэнку да нечага. У ім, акрамя адміністрацыйна-дыктатарскага, з'явіліся страх і жаданне пакараць тых, хто наважыўся выступіць супраць яго. Усё гэта разам ужо не дае ніякіх падставаў верыць, што яго можна ў нечым пераканаць. Я думаю, тут можа спрацаваць толькі адно (чаго нельга чакаць) — каб Расія афіцыйна заявіла і адмовілася ад усялякай дапамогі Лукашэнку. Але гэта, на мой погляд, не адбудзецца, і Пуцін будзе яго падтрымліваць.

Таму патрэбныя толькі агульныя намаганні сусветнай супольнасці, еўрапейскіх дзяржаваў. У тым ліку і Украіны, на што ён вельмі негатыўна і хваравіта рэагуе, часта дазваляе сабе выпады супраць Украіны, хаця ў нас да Беларусі і беларусаў вельмі паважлівае стаўленне.

**«І беркутаўцы стралялі ў людзей, і гэтыя "людзі ў чорным"»**

*— У Беларусі цяпер часта параўноўваюць з фашызмам дзеянні ўладаў і сілавікоў у дачыненні да мірных пратэстоўцаў. У Беларусі пахаваны ваш бацька, які ваяваў з нацыстамі. Якая ваша рэакцыя, калі людзі ў Беларусі называюць амапаўцаў або іншых сілавікоў на беларускіх вуліцах фашыстамі, карнікамі?*

— Гэта эпітэт. Не ў гэтых людзях прычына, яны — вынік і выкананне. З людзей, якія вымушаныя былі ўдзельнічаць у гвалце, многія прызвычаіліся да гэтага, ёсць і такія, якія жывуць гэтым, і іх трэба ізаляваць, але большасць людзей проста выконваюць.

*— Чым беркутаўцы адрозніваюцца ад «людзей у чорным» на вуліцах беларускіх гарадоў?*

— Вялікай розніцы няма. І беркутаўцы стралялі ў людзей, забівалі, і гэтыя «людзі ў чорным». Іх таксама адбіраюць адпаведным чынам. Лукашэнка і каманда не бяруць любога чалавека, каб запоўніць імі вуліцы. Яны іх вывучаюць. Нехта пагаджаецца, іншы адмовіўся б. Я разумею, што ёсць прысяга, тым не менш у нашай Канстытуцыі запісана, што нельга выконваць злачынныя загады і законы, а толькі тыя, якія ў інтарэсах краіны, грамадства і народу.

**«Наўрад ці ў яго будзе нармальнае жыццё, калі застанецца ў Беларусі»**

*— Ва Украіне жывуць чатыры былыя прэзідэнты — вы, Леанід Кучма, Віктар Юшчанка, Пятро Парашэнка, і кожны адыгрывае важную ролю ва ўкраінскім грамадстве. Яшчэ адзін былы прэзідэнт Віктар Януковіч хаваецца ў Расіі. Як вы думаеце, ці ёсць яшчэ шанец у Лукашэнкі пабыць на ганаровай і паважанай пазіцыі былога прэзідэнта, ці засталася толькі такая дарога, як у Віктара Януковіча?*

— Наўрад ці ў яго будзе нармальнае жыццё, калі застанецца ў Беларусі. Можа, недзе ў глыбінцы будзе менш варожасці (я і па Украіне мяркую), але актыўнае, гарадское грамадства не зможа змірыцца, каб гэты чалавек, які прынёс так шмат няшчасця.... У свой час ён нешта і добрае зрабіў, не кажу, што ён усё толькі дрэннае зрабіў для Беларусі. Але тое, што ён робіць апошнім часам, трыманне за ўладу насуперак здароваму сэнсу, і ахвяры, якія з'явіліся праз гэтае жаданне ўлады, — не думаю, што яму проста даруюць. Яму будзе цяжка жыць у гэтым асяроддзі, і ён вымушаны будзе з'ехаць з Беларусі.

**«Я разумею беларускіх пенсіянераў»**

*— За некалькі гадзін да нашага інтэрв'ю скончыўся марш пенсіянераў у Мінску, на якім адбыліся затрыманні. Што б вы маглі сказаць не толькі пенсіянерам, але ўсім беларускім людзям, якія, нягледзячы на рэпрэсіі і пагрозы, працягваюць выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю?*

— Мне нямала гадоў. На пачатку наступнага году споўніцца 87. Я перажыў польскую, нямецкую і маскоўскую акупацыі. Цяпер я перажываю вельмі складаную сітуацыю, калі частка ўкраінскай тэрыторыі акупаваная Расіяй. У мяне ўнутры выспеў глыбокі непрымірымы пратэст супраць гвалту, супраць нечалавечага, варожага стаўлення лідара, улады да чалавека. Канечне, я разумею беларускіх пенсіянераў. Менавіта таму назваў свой узрост.

Колькі патрабуецца ўнутранага разумення, як трэба ламаць сябе, пераЖыўшы столькі, і саспець да пратэсту ў імя народу, у імя будучыні... Яны разумеюць, што жыццё не вечнае, і прыйшлі абараніць беларусаў, дзяцей, унукаў, праўнукаў. Прыйшлі, ахвяруючы здароўем, таму што і каронавірус, і сіл не так і шмат у іх.

У нядзелю мы адзначалі дзень памяці Галадамору. Мільёны ўкраінцаў загінулі. Я палічыў, што ў цэлым за гэтыя гады загінула 12 мільёнаў украінцаў. Гэта больш, чым увесь беларускі народ. Можаце ўявіць, што ў нас у кожнага ўнутры. Мы разумеем, якія гэта неверагодныя ахвяры. Тое ж адбываецца сёння ў Беларусі. Я не хачу, каб гэта скончылася вялікім праліццём крыві. Я прашу, проста прашу па-чалавечы беларусаў. Паслухайце сябе, паслухайце голас розуму, паверце ў дабро, але не верце ўладзе. Уладзе верыць ужо нельга. Улада вам здрадзіла. Улада ў Беларусі, якую вы абралі, якой вы даверылі, вам здрадзіла дзеля сваіх карыслівых, эгаістычных, дыктатарскіх мэтаў.

Нельга дзейнічаць законам супраць тых, хто парушае закон і зрабіў гэтыя парушэнні нормай паводзінаў. Так казалі ў старажытнасці. Закон і дабро не можа прымяняцца да чалавека, які творыць беззаконне і зло. Зло трэба спыніць абавязкова. Сёння ўлада ў Беларусі на чале з Лукашэнкам — гэта зло.

**Радыё Свабода**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКІХ ФАШЫСТАЎ

**Слова «фашызм», калі меркаваць па тым, як часта яго ўжываюць у газеце «СБ. Беларусь сегодня», перажывае ў дзяржаўнай публіцыстыцы другое нараджэнне.**




Крыху статыстыкі. Калі за няпоўныя дваццаць гадоў з моманту яго першага згадвання на сайце газеты (17.07.2001) было апублікавана 620 артыкулаў, якія змяшчаюць гэта слова, то за студзень-лістапад 2020 года — 186 (30 %).

Справа, аднак, не ў колькасным росце. Кардынальна змяніўся сэнс, які «залатыя пёры» сталі ўкладваць у слова «фашызм». У нулявыя гады слова было звыклым для постсавецкага чалавека. Так, у першым артыкуле гаворка ішла пра дабрачынную аптэку «для былых вязняў фашызму».

Але што знаходзіць пошукавік сёння? «Марш против фашизма» — под бчб» (21.11.2020). «Дичь: марш против фашизма под нацистскими флагами — в Минске...» (22.11.2020). «Эта мантра от наших либералов-демократов нам уже хорошо известна: коммунизм = фашизм…» (04.11.2020).

І нарэшце, артыкул, што змяшчае выказванне галоўнага персанажа маёй «Азбукі паліталогіі». Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не працытаваць ключавы абзац: «Что касается фашизма, ко мне это никак не приклеишь, потому что я интернациональный человек. Для меня что украинец, что русский, что поляк, что белорус, литовец, немец — для меня все равно. Вы же видите мою политику. Я всегда гордился тем, что у нас нет драк и противоречий между разными национальностями. Я не националист… А фашизм — это высшая форма национализма. Фашистом может быть ярый националист — это не ко мне» (20.11.2020).

Веды, атрыманыя на гістарычным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута ў гады брэжнеўскага застою, не схаваеш. А ў тыя слаўныя гады, па якіх сёння многія льюць кракадзілавы слёзы, уладальнікі дыпломаў «выкладчык гісторыі і грамадазнаўства» фашызм ад нацызму (нацыянал-сацыялізму) не адрознівалі. І гэта не было вынікам нейкай недапрацоўкі. Усё адначасова і прасцей, і складаней, бо без падмены паняццяў у савецкіх ідэолагаў паўсталі б праблемы пры тлумачэнні пераваг сацыялізму над усімі іншымі грамадска-эканамічнымі фармацыямі…

**Што застаецца?**

Каб рухацца далей, я прывяду яшчэ адну цытату з манаграфіі: «Фашызм — зусім не тупіковая галіна развіцця сучаснага грамадства. У ХХ стагоддзі ён быў адной з вядучых палітычных дактрын сусветна-гістарычнага значэння. І цалкам верагодна, што той жа фашызм, хоць, хутчэй за ўсё, пад іншым імем, зможа адыграць важкую ролю і ў ХХІ стагоддзі. Фашызм — гэта адметная рыса сучаснасці».

Прашу звярнуць увагу на апошні сказ цытаты. Фашызм не ўчора нарадзіўся, і Нюрнбергскі працэс рысу пад ім не падвёў. Фашызм не варта зводзіць да палітычных практык ашалелых дучэ і фюрэра. «Фашызм, — тлумачыць гісторык Ілля Герасімаў, — гэта пра правал мадэрнасці ў масавым грамадстве з-за слабасці палітычных інстытутаў і здрады інтэлектуалаў».

Як тут не прыгадаць байку «Ліса і вінаград». Яе гераіня не здолела справіцца з выклікам сучаснасці — і адмовіла выкліку ў праве на існаванне. Вось так і цэлыя народы часам вяртаюцца ў архаіку, бо не паспяваюць за дынамічнымі пераменамі.

Многія еўрапейскія народы сутыкнуліся з гэтай праблемай яшчэ ў першай палове ХХ стагоддзя (Італія, Германія, Аўстрыя, Іспанія, Румынія, Балгарыя і г. д.). Расійская імперыя — з-за слабага развіцця трэцяга саслоўя (буржуазіі) — знайшла свой адказ на выклік мадэрнасці: бальшавізм.

Беларуская мадэль — гэта яшчэ адна спроба ўпісацца ў сучаснасць шляхам запазычанняў заходніх тэхналогій і закупкі абсталявання, але нічога не змяняць пры гэтым у сацыякультурнай сферы.

Асноўным вынікам мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, што была абвешчаная ў 2013 годзе (гл. табліцу), сталі страты, і ад яе давялося адмовіцца. Што засталося? Стандартны для сусветных лузераў набор развагаў: адданасць традыцыйным каштоўнасцям, дэградацыя Захаду, зайздрасць суседзяў з-за нашай стабільнасці, імпартазамяшчэнне і іншыя нікому ў свеце не цікавыя рэчы.

Усё вышэйпералічанае і яшчэ многае з таго, што засталося за дужкамі, пацвярджае правал мадэрнасці. Фашызацыя ўнутранай палітыкі — натуральная рэакцыя на чарговую спробу калі і не перагнаць прамыслова развітыя краіны, то хаця б скараціць адставанне ад іх.

Для тых жа, у каго слова, якое прыйшло да нас з італьянскай мовы, выклікае негатыўныя асацыяцыі, можна знайсці іншыя словы. Але справа не ў словах. Пры дапамозе паўтору правільных слоў нават смаку халвы адчуць у роце не атрымліваецца.

**Пра тры віды сукна**

Развіццё азначае дыферэнцыяцыю. Але чым больш інтэнсіўна з калісьці адзінай (традыцыйнай) культуры вылучаюцца лакальныя субкультуры (напрыклад моладзевыя), тым складаней знаходзіць агульны інтарэс, без якога з асобных грамадзян немагчыма фарміраваць грамадства.

…Поспехі беларускага Парка высокіх тэхналогій дазвалялі спадзявацца на магчымасць такога пераходу. У 2019 годзе ПВТ экспартаваў паслуг на $ 2,2 мільярда (+$0,8 млрд да 2018 года). Ён практычна на 100 % забяспечыў рост экспарту паслуг па краіне. Але які будзе вынік гэтага года і года наступнага, калі «эфект 9 жніўня» адаб'ецца ў поўнай меры? Пажывём — пабачым.

Але поспехі ў эканоміцы, насуперак уяўленням марксістаў савецкага і постсавецкага разліву, — толькі следства ад поспехаў у сацыяльнай і палітычнай сферах. Постіндустрыяльную эканоміку без постіндустрыяльнага грамадства не пабудаваць. Ахвочым абагнаць Еўропу па якасці аўтамабіляў неабходна спачатку абагнаць яе па якасці судовай сістэмы.

У сувязі з гэтым прывяду фрагмент з «Адэскіх апавяданняў» Ісаака Бабеля, які днямі нагадаў слухачам «Эхо Москвы» палітолаг Уладзімір Пастухоў: «Ведаеце, у чым розніца паміж брытанскім сукном, польскім сукном і маскоўскім сукном? Брытанскае сукно — гэта сапраўднае сукно. Польскае сукно — гэта лайно ў кветачкі. А маскоўскае сукно — гэта проста лайно».

Гэтую цытату палітолаг прывёў для ілюстрацыі якасці беларускай выбарчай сістэмы. Зрэшты, нічога новага чытачам НЧ ён не паведаміў.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПЕРАСЛЕД

# СВЯТАР: «… МЯНЕ ТРЭБА ЗЬЛІКВІДАВАЦЬ ФІЗЫЧНА»

**Каталіцкаму сьвятару з Расонаў (Віцебская вобласьць) Вячаславу Барку прысудзілі 10 сутак арышту. Ксяндза Барка судзілі за тое, што на сваёй старонцы ў Фэйсбуку ён разьмясьціў працу мастака Ўладзімера Цэсьлера «Стоп лукашызм». У сувязі з тым, што на малюнку прысутнічае выява нацысцкай свастыкі, публікацыя малюнка сьвятаром расцэненая як дэманстрацыя нацысцкай сымболікі. За сьвятара ўжо заступіўся і сам мастак Цэсьлер, які назваў свой малюнак антыфашысцкай працай і абураны такой трактоўкай праваахоўнікаў і перасьледам сьвятара.**

У інтэрв'ю святар сказаў:" Я разьмясьціў гэты твор тады, калі кожная клетка майго арганізму адчула тое насільле, якое адбываецца ў краіне. Як хрысьціянін я не магу адвярнуцца і сказаць: я ня бачу. Людзі, я гэта бачу. Бачу неправамоцнае насільле, і я супраць аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі, які перарастае ў таталітарны рэжым.

Рымскі папа кажа, што таталітарны рэжым можа пераманіцца ў тэрарызм. І сёньня мы гэта бачым. У Беларусі на дзяржаўным узроўні адбываецца тэрарызм. Я не магу маўчаць, калі зло трыюмфуе.

Мне ня важна, хто будзе кіраваць краінай, ня важна, як будуць зваць прэзыдэнта ці як будзе называцца партыя. Мне важна, каб нашая краіна кіравалася перадусім законам і каб правы чалавека захоўваліся.

Само тое, што мой адміністратыўны працэс праводзіць опэрупаўнаважаны крымінальнага вышуку, гэта вельмі дзіўна. Ён сам прызнаўся, што такое адбываецца ўпершыню.

Падчас працэсу ён тройчы выходзіў раіцца з кіраўніцтвам, як весьці адміністратыўны працэс. Разоў пяць ён тэлефанаваў начальству. Паводле мяне, гэты працэс палітызаваны.

Запарушэньнегэтагаартыкула мне могуць прысудзіць суткі або канфіскаваць прыладу, дзякуючы якой я нібыта прапагандаваў нацысцкую сымболіку.

Яшчэ да публікацыі мною малюнка Цэсьлера опэрупаўнаважаны крымінальнага вышуку Гаўрылаў асабіста апытваў маіх парафіянаў, да чаго я заклікаў, ці прапагандую я нешта.

У сваіх выступах я выступаю супраць фашызму, камунізму, супраць кожнага таталітарнага рэжыму. Бо я ксёндз, каталік, хрысьціянін, я кіруюся афіцыйным навучаньнем каталіцкага касьцёла.

Я падрыхтаваны да ўсяго, я разумею, у якой краіне жыву. У мяне няма даверу да інстытуту дзяржаўнай улады. Я маю давер да Бога. Спакаваную торбу я ўсялякі выпадак, калі б мяне забралі, я маю ўжо даўно.

Хрыстос казаў: «Мяне перасьледавалі, і вас перасьледаваць будуць». Мы, хрысьціяне, каталікі, ня можам баяцца перасьледу за праўду і веру ў Бога. Калі мы пакланяемся крыжу Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрэслага, то мы не павінны баяцца прыняць гэты крыж на сябе.

Час перасьледу вернікаў — блаславёны час. Гэта час ачышчэньня касьцёла. Дзякуючы гэтай крызіснай сытуацыі мы сёньня бачым, хто ёсьць хто ў хрысьціянскіх супольнасьцях.

Сябры і парафіяне раілі мне выехаць за мяжу, некаторыя плакалі, што так будзе лепш. Але чаму я павінен зьяжджаць? Я не парушаю законаў, у мяне няма кепскіх думак у сэрцы, я не хачу забіваць і помсьціць. Я проста хачу жыць у гэтай краіне па законе. Па законе Божым і законе людзкім. Я і ня выеду. Я застануся на гэтай зямлі, дзе жывуць мае вернікі. Я хачу, каб тут было вяршэнства закону.

Пакуль я жыву, немагчыма, каб спынілася маё прапаведаваньне. Патрэбная фізычная ліквідацыя. Але косьці забітага чалавека прамаўляюць яшчэ гучней, чым тады, калі чалавек быў жывы. Няма шанцаў, каб заткнуць рот прапаведніку.

Хутка Раство. Людзі, мы перажываем блаславёны час. Час крызісу — гэта час чаканьня. Гасподзь прыходзіць у нашае жыцьцё і на наш сьвет. Беларусы, не губляйце надзеі. Верце ў тое, што закон будзе мець вяршэнства. Больш адвагі. Выходзьце са сваіх дамоў, месцаў працы, са свайго ўтульнага жыцьця, дзе вы прыстасаваліся да беззаконьня. Выходзьце насустрач Госпаду, правасудзьдзю, справядлівасьці і праўдзе. І тады будзе спакой у Беларусі, і мы будзем мець задавальненьне з таго, што маем."

*(скарочана)*

**https://svabod1.azureedge.net/a/30982192.html**

**Дзьмітры Гурневіч**

АЛІМПІЙСКІ РУХ

# ЗАБАРАНІЛІ ПРЫСУТНІЧАЦЬ НА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ

**Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) прыняў рашэньне часова адхіліць прадстаўнікоў Нацыянальнага алімпійскага камітэту (НАК) Беларусі ад удзелу ў падзеях МАК, уключаючы Алімпійскія гульні.**

Выканаўчы камітэт МАК вырашыў:

Выключыць абраных членаў Выканаўчага савета НАК Беларусі з усіх мерапрыемстваў МАК, уключаючы Алімпійскія гульні. Сюды ўваходзіць, у прыватнасьці, Аляксандар Лукашэнка ў якасьці прэзыдэнта НАК і законнага прадстаўніка НАК; Віктар Лукашэнка ў якасьці першага віцэ-прэзідэнта НАК і асобы, якая штодня адказвае за дзейнасьць НАК; Дзьмітры Баскаў у якасьці чальца Выканаўчага камітэту НАК і з улікам канкрэтных абвінавачаньняў, вылучаных супраць яго. З 13 чальцоў Выканаўчага камітэту НАК Беларусі гэтае выключэньне не датычыць толькі Тацяны Драздоўскай.

Прыпыніць усе фінансавыя выплаты НАК Беларусі, за выключэньнем выплат, зьвязаных з падрыхтоўкай беларускіх спартоўцаў да Алімпійскіх гульняў у Токіё 2020 і зімовых Алімпійскіх гульнях у Пэкіне 2022. Усе алімпійскія стыпэндыі для беларускіх спартоўцаў цяпер будуць выплачвацца непасрэдна спартоўцам, а не праз НАК.

Папрасіць адпаведныя міжнародныя фэдэрацыі гарантаваць, каб усе беларускія спартоўцы, якія маюць права на ўдзел, маглі ўдзельнічаць у кваліфікацыйных мерапрыемствах да Алімпійскіх гульняў без палітычнай дыскрымінацыі.

Прыпыніць любыя перамовы з НАК Беларусі наконт правядзеньня будучых мерапрыемстваў МАК.

Папрасіць усіх удзельнікаў Алімпійскага руху паважаць гэтыя захады ў інтарэсах абароны правоў беларускіх спартоўцаў і рэпутацыі Алімпійскага руху.

«МАК прыйшоў да высновы, што цяперашняе кіраўніцтва НАК Беларусі не абараняе ад палітычнай дыскрымінацыі», — пракамэнтаваў рашэньне прэзыдэнт МАК Томас Бах.

Бах таксама сказаў, што Міжнародная федэрацыя хакею абмяркуе пытаньне пра ролю Беларусі ў найбліжэйшыя дні.

Латвія, якая мелася праводзіць чэмпіянат сьвету па хакеі 2021 году разам зь Беларусьсю, публічна дыстанцыявалася ад супрацоўніцтва з гэтай краінай пасля спрэчных выбараў. МФХ таксама «ініцыявала працэдуру» супраць беларускага чыноўніка, што ўваходзіць у яе кіруючы камітэт, сказаў Бах, якога цытуе агенцыя AP.

Рэакцыі МАК на палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі дамагаліся спартоўцы зь Беларускага Фонду спартовай салідарнасьці.

**«Радыё Свабода»**

“ФАНТАЗІІ”

# «ЛУКАШЕНКО ЗАГНАЛ НАС В ПЛЕН СВОИХ ФАНТАЗИЙ И ФОБИЙ»

**«Есть еще в Беларуси такие люди, которые считают, что без Лукашенко все развалится, — пишет Ярослав Романчук. — На просьбу конкретизировать свою точку зрения, что ВСЁ развалится, почему и как конкретно руководитель страны препятствует этому развалу, они отвечают либо молчанием, либо «так все же понятно умным людям».**

«Без Лукашенко все развалится» — типичный блеф и PR. На самом деле, это при Лукашенко все разваливается.

Авторитет государства и доверие к нему общества и мира обнулены.

Верховенство права и справедливость судебной власти разрушены.

Культура диалога, уважение разных точек зрения растоптаны.

Честность, справедливость в доступе на рынок, к финансам и ресурсам ликвидированы.

Отрицательный отбор кадров привел к опасной концентрации шлаков в органах управления государством и экономикой. ОМОНизация экономики идет полным ходом. В правящих органах власти людей, знающих, как правильно бить дубиной и бросать шумовые гранаты больше, чем тех, кто знает, что такое инфляция или EBITDA.

Доверие к BYN-рублю так и не поднялось выше плинтуса.

Самые выгодные ниши на рынках поделены среди «своих» — для VIP-распорядителей и потребителей чужого.

Более 10 лет безуспешно идет борьба за «по-$500». Средней пенсии по $200 опять ждать, то ли до второго пришествия Христа, то ли до повышения пенсионного возраста до 70 лет.

Деиндустриализация набирает обороты. Закрываются заводы и фабрики. Шансы на IV промышленную революцию раздавлены большевицким угаром воспроизвести революционную политику Ленина и Сталина.

Село стареет, вымирает, мельчает. На нем греют руки аграрные бароны и многочисленные начальники исполкомов и национальных органов.

Пенсионная система зияет дырами. Система здравоохранения поругана, искажена идеологией, недофинансированием и советским разрушительным «бесплатно».

Белорусская культура, язык и история сохранились не благодаря, а вопреки первому советскому президенту Беларуси.

Спорт и тот разогнали, разобщили, изгнали, растоптали честь и достоинство тренеров и спортсменов…

При Лукашенко из страны бегут предприниматели, инвесторы, молодежь, творцы, честные и профессиональные рабочие. Из Беларуси при Лукашенко вымывается капитал, деньги, идеи и нематериальные активы. Из Беларуси при Лукашенко изгоняют ее честь, совесть и цвет нации, тех людей, которые годами работали на ее репутацию и славу.

Так что же значит фраза «без Лукашенко все развалится»? То же самое, что «без Сталина в Советском Союзе не было бы гуманизма». Или «без колхозов нас ждет голод». Или «белорусы настолько глупы и слепы, что без направляющей, руководящей руки начальника не смогут ни прокормить, ни обучить, ни обустроить свою жизнь».

Давно пришло время понять, что фраза «без Лукашенко все развалится», на самом деле, значит «при Лукашенко все разваливается». Ручное регулирование цен, экономика под кулаком видимой руки Левиафана, борьба с импортом, «закон не всегда применим», телефонное право, принуждение к труду за копейки, понукание и оскорбления несогласных, выпячивание и выгораживание своих из бизнеса и власти, стойкий большевизм, слепая вера в мистические заговоры и потусторонние силы, пренебрежение умными и честными – политик XX века советского разлива обладает прочным иммунитетом к новым знаниям, науке «экономика», состраданию и уважению людей. Он – анти-Ли-Кван-Ю и недоЛенин. Потерялся в своем прошлом. Загнал нас в плен своих фантазий и фобий. Беспросветно и беспробудно.

В Беларуси без Лукашенко, действительно, кое-что развалится. Закроется бюджетная кормушка для номенклатурно-силовых кланов. Развалится схематоз, который годами плели начальники и «красные директора» по вымыванию денег из заводов и фабрик. Будет ликвидирована ~10-тысячная вертикаль идеологов и пропагандистов. В прошлое уйдет порочная практика не платить по долгам и получать льготы, субсидии из бюджета. Мы забудет, что такое гиперинфляция и внезапная девальвация. Никто не будет гонять учеников и учителей, врачей и военных на спортивные праздники и имитацию народовластия.

Самое время попробовать, не так ли?»

**https://gazetaby.com**

“ОРГАНЫ”

# ПАЛКОЎНІК ЮСТЫЦЫІ ПРА НАСТРОІ Ў «ОРГАНАХ»

**«У пачатку выбарчай кампаніі тагачасны кіраўнік МУС Юры Караеў сустракаўся з супрацоўнікамі буйных аддзелаў унутраных спраў. Было сказана наступнае: „Вам можна ўсё. Не падвядзіце“. Нават у страшным сьне ня мог уявіць, што „ўсё“ — гэта літаральна ўсё».**

Палкоўнік юстыцыі, сьледчы ў асабліва важных справах аднаго зь аддзелаў Сьледчага камітэту Іван Агееў (імя і прозьвішча зьмененыя на яго просьбу) у размове са Свабодай расказаў, якія цяпер настроі ў сілавым блёку і чаму ніводзін праваахоўнік не пакараны за перавышэньне паўнамоцтваў.

**«Сьвярбяць рукі распачаць крымінальную справу за гвалт»**

«Ад самага пачатку працы ў сілавых структурах нам казалі: міліцыянт, сьледчы мусяць заставацца па-за палітыкай, — кажа кадравы сілавік. — Я згодны, але ў тым выпадку, калі выконваецца асноўны прынцып: кожны роўны перад законам. Толькі пры такім раскладзе супрацоўнік можа сказаць: я па-за палітыкай, бо на варце закону. Ня важна, хто перада мной: злодзей, які нешта скраў; ці высокі чыноўнік, ці сілавік. На жаль, гэты прынцып, закладзены і ў Канстытуцыі, пачаў парушацца, калі прынялі новы Крымінальна-працэсуальны кодэкс. Зьявіліся касты „недатыкальных“. Маецца на ўвазе асаблівы парадак завядзеньня крымінальных спраў адносна шэрагу асобаў — дэпутатаў, міністраў і г.д.».

Утым, што закон не для ўсіх аднолькавы, беларусы змаглі пераканацца падчас драматычных падзеяў адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Тысячы адміністрацыйных і крымінальных справаў супраць удзельнікаў мірных акцый і ніводнай — за беспрэцэдэнтны гвалт, учыненыя калецтвы і нават забойствы мірных грамадзянаў сілавікамі.

«У любога супрацоўніка павінна быць павага да закону. Бяз гэтага ня можа выконваць свае абавязкі ні міліцыянт, ні сьледчы, ні пракурор, ні судзьдзя. Калі лічыш, што маеш права ў нейкіх выпадках парушыць, то гэта злачынства. Шмат сьледчых абураны дзеяньнямі праваахоўнікаў. Усе мае калегі сядзяць у тэлеграм-каналах, бачаць ролікі з разгонаў. І калі амапавец беспрычынна б'е нагой у твар, гэта перавышэньне паўнамоцтваў. У законе, у тым ліку, сказана: сілавік павінен імкнуцца прычыніць найменшы ўрон здароўю. Калі чалавек не супраціўляецца, навошта малаціць яго дубінкай?»

Дык чаму пакрываюцца злачынствы тых, у чые функцыі ўваходзяць зусім іншыя задачы — абарона грамадзянаў, а не дэманстрацыя гвалту?

«Працэсы не пачынаюцца толькі таму, што кіраўніцтва краіны цудоўна разумее: першая ж крымінальная справа супраць канкрэтнага супрацоўніка сілавых структураў стане пачаткам канца цяперашняй сыстэмы. Бо той, хто будзе далей удзельнічаць у разгонах, ужо задумаецца: „Наступным у судовых канвэеры магу стаць я“. Тым больш ёсьць праграмы распазнаваньня твараў, схавацца ад правасудзьдзя складана. Асабіста ў мяне вельмі сьвярбяць рукі пры наяўнасьці складу злачынства завесьці крымінальную справу па факце гвалту з боку байцоў АМАП ці іншых падразьдзяленьняў», — адзначае ён…

**«Выкарыстаньне зброі ў крайніх выпадках і толькі па нагах»**

Сьледчы Агееў ня верыць, што крымінальныя справы супраць вінаватых у гвалце пры цяперашнім рэжыме магчымыя ў прынцыпе. Паводле ягоных зьвестак, праваахоўнікі атрымалі поўны карт-блянш на ўжываньне сілы.

«На пачатку выбарчай кампаніі ўжо былы кіраўнік МУС Юры Караеў і ягоныя намесьнікі сустракаліся з супрацоўнікамі буйных аддзелаў унутраных спраў. Было сказана прыкладна наступнае: «Вам можна ўсё. Не падвядзіце». На той момант, калі я гэта пачуў, зразумеў крыху інакш: усё, але ў рамках закону, дзе абсалютна зразумела прапісанае ў тым ліку выкарыстаньне агнястрэльнай і траўматычнай зброі. У самых крайніх выпадках і толькі па нагах, каб прычыніць найменшую шкоду здароўю. А не прыцэльна ў галаву ці ў грудзі. Нават у страшным сьне ня мог уявіць, што будзе так, як мела месца ў жніўні і паўтараецца цяпер. Што «ўсё» — гэта ў літаральным сэнсе «ўсё».

Гарантыі беспакаранасьці для сілавікоў Свабодзе пацьвердзіў і адзін з былых супрацоўнікаў цэнтральнага апарату Генпракуратуры. Калі ў пачатку верасьня на пасаду кіраўніка ведамства быў прызначаны Андрэй Швед, ад яго імя былі падпісаны «праграмны дакумэнт», у якім прызнавалася правамернасьць гвалту і зьмяшчаўся пералік мераў для кожнага профільнага ведамства ў рэагаваньні на розныя формы пратэстаў.

Фактычна дакумэнт пазбавіў магчымасьці ініцыяваць пракурорскія праверкі кшталту той, што спрабавалі правесьці ў справе пабітых байкераў. Як вынік, у знак пратэсту пачалі звальняцца аўтарытэтныя супрацоўнікі пракуратуры. Дакумэнт носіць грыф сакрэтнасьці, кола доступу да яго моцна абмежаванае.

*(вельмі скарочана)*

**Больш тут: svabod1.azureedge.net/a/30987933**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.12.2020 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабрахвотнікамі.